ISSN 0700-5172

*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі*

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Былых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ – Quarterly magazine, published by Liaison Comm. of Byelorussian War Veterans

*Address: KSBV, 57 Riverdale Ave. Toronto, Ont. M4K 1C2*

Год 5 Верасень, 1978 № 3 (11)

## ПАТРЭБНАЯ ПОМАЧ

Сёлета ў жнівені мінула чатыры гады ад часу, як адбылася Першая Сусьветная Сустрэча Беларускіх Вэтэранаў у ангельскім горадзе Манчэстары. Падзея гэна важная тым, што дзякуючы ёй паўстаў наш часапіс, які, дзякаваць Богу, хоць часам і кульгаў, быццам ранены ў баі вайсковец, але на злосьць нашым ворагам і радасьць суродзічам і прыхільнікам, прадаўжае існаваць.

Часапіс гэты паўстаў зь нічога, выкліканы, як і іншыя нашы часапісы, жыцьцёвай патрэбай. Фактычна жыцьцёвыя патрэбы былі дзьве: трыманьне сувязяў між былымі беларускімі вайскоўцамі на эміграцыі й зьбіраньне ды публікацыя матар'ялаў перадусім пра нашу збройную мінуўшчыну.

Мовы няма, што часапіс наш спрычыніўся да паглыбленьня і ўстанаўленьня кантактаў між беларускімі вэтэранамі. Есьць навет прычыны мяркаваць, што мясцамі, зноў-жа дзякуючы "Зважай", актывізавалася вэтэранская дзейнасьць. Гэта пытаньне – актывізацыі дзейнасьці для падтрыманьня беларускіх вайсковых традыцыяў, вельмі важнае і ім варта й патрэбна заняцца яшчэ асобна.

Другая патрэба, якая выклікала нараджэньне "Зважай" – зьбіраньне й друкаваньне матар'ялаў пра нашу вайсковую мінуўшчыну, – патрабуе неадкладнай увагі.

У мінулых дзесяці нумарох часапісу былі зьмешчаныя матар'ялы рознага характару, а часьць зь іх, вельмі цэнных, прысьвечаныя нашай вайсковай мінуўшчыне. Іншыя-ж мелі агульна-гастарычную тэматыку. Яны выклікалі рэакцыю і з таго й з гэтага сьвету, значыцца з паняволенай бацькаўшчыны і з эміграцыі. І, агульна гаворачы, бальшыня зь іх мае для беларускай гісторыі сваю вартасьць.

Калі-б нашага часапісу "Зважай" ня было, бязумоўна ня былі-б сабраныя й надрукаваныя гэныя матар'ялы. Ці была-б гэта страта для нашае вайсковае й агульнае гісторыі? Адкажэце на гэта тыя, што рэгулярна і ўважна чыталі часапіс.

Нам ведама, таксама як і шматлікім з вас, што ёсьць між нас суродзічы, каторыя зьбіралі й пісалі ўспаміны пра збройнае змаганьне Беларусаў падчас апошняе вайны ці раней. А ёсьць і іншыя, каторыя пісалі успаміны агульнага характару, што таксама маюць сваю цану. Да іх гэтта наша просьба: прысылайце свае запісы ў "Зважай". Па магчымасьці будзем іх друкаваць. Калі яны ў вашым прыватным архіве, дык могуць загінуць. Раз-жа надрукаваныя, яны ўжо ніколі не загінуць.

А ці даводзіцца гаварыць пра іх цану? Пра яе могуць сказаць найлепш нашыя нашчадкі. Падумайце, як-бы цікавілі нас матар'ялы, напісаныя гэтак званымі простымі людзьмі з часоў вялікіх падзеяў нашага народу, калі-б яны былі ў свой час сабраныя, выданыя ды да нас дайшлі...

Да гэтага часу часапіс наш існаваў выключна за сродкі ахвяраваныя нашымі былымі вайскоўцамі дый наагул патрыётамі суродзічамі. Прыйдзе час, калі будзем сьвяткаваць 5 гадоў ад паўстаньня "Зважай" і тады назавём нашых найбольш выдатных патрыётаў, дзякуючы фінансавай помачы якіх наш часапіс праіснаваў і, няма сумлеву, далей існаваць будзе.

А цяпер больш штодзённае: кошты друку, пошта, значыцца асноўныя расходы, зьвязаныя з выданьнем павысіліся за час ад нараджэньня "Зважай" прынамся ў паўтара раза. Калі згадаць тое, цяпер часта й густа паўтаранае: трэба куды хутчэй бегчы, каб стаяць на месцы.

Інфляцыя цяпер сусьветная, дый навет (дзіва дзіваў!) залезла ў тыя краіны, дзе, дзякуючы ведамаму барадатаму й іншым ня менш ведамым "культам" былі вырашылі там людцы ўсе жыцьцёвыя праблемы, уключна з інфляцыяй..

Таму, (зусім ня чырванеючыся) просім нашых прыхільнікаў, перадусім Амэрыканцаў і Канадыйцаў, не забывацца пра наш сьціплы часапіс і далей, бо, відаць, далёкая ў яго яшчэ дарога...

А ўсім тым, што памаглі ў мінулым, вялікае, беларускае дзякуй!



## ЛЯСЫ, БУНКЕРЫ, ПАРТЫЗАНЫ

*(Заканчэньне. Пачатак гл. № 2(10)*

У добра замаскаваных лягерах, якія знаходзіліся галоўным чынам сярод непраходных балот, была сабраная валізарная колькасьць зброі, амуніцыі, запасных частак, вопраткі й харчоў. Цэлая акруга была моцна замінаваная. Папаўнялася гэта нападамі на дзяржаўныя крамы, амуніцыйныя склады Чырвонай Арміі й нападамі на цягнікі.

Адна часьць забясьпечаньня — перадусім мадэрная радыястанцыя была закупленая за межамі і ў засакрэчаным вагоне перапраўленая празь межы. Маё першае спатканьне з "партызанамі", якія забясьпечвалі транспарты й кантрабанду, было апісана раней.

### Удаваныя напады.

Вартаўніком лягераў амуніцыі рэгулярна плаціў "Нацыянальна-Вызвольны Камітэт". Роўна плацілі жаўнерам і афіцэрам і яны час ад часу атрымлівалі урлёп, зразумела із хвальшывымі дакументамі. Аплата была даволі высокая, таму і "партызанам часовым" (рэзэрвістам) выплачвалася выраўнаньне зарплаты.

Мясцовыя жыхары памагалі нялегальным па сваіх сілах. Наложаную савецкімі "вызвольнікамі" норму выпаўніць было немагчыма ды пры гэтым трэба дапамагчы яшчэ партызанам. Таму людзі кідаліся на розныя "хітрыкі". Да такіх належаў удаваны напад. Сябры "Чорнага Ката" куплялі нехкую колькасьць збожжа па рэгулярных цэнах, а ноччу арганізавалі напад, падчас якога забіралі раней заплачанае збожжа. У гэтым выпадку грамада не патрабавала здаваць на ссыпку й гэтым самым збываць зь сябе падазрэньне ў сабатажы.

### Наведваюць землякі.

На працягу колькіх тыдняў займаўся я радыёслужбай. Мадэрны апарат стаяў у маім скромным пакоі. Сюды вечарам заглядалі да мяне землякі. Часткова былі гэта афіцэры быўшай нямецкай арміі, якія нейкім сьляпым прыпадкам, або гульнёй лёсу папалі ў шэрагі партызанаў. Некаторыя зь іх вайной страцілі жонак і дзяцей, іншыя зноў таму, што бацькаўшчына іх трапіла пад польскую акупацыю, а некаторыя былі шукальнікамі прыгодаў ды проста мелі нахіл да барацьбы; гэта быў асаблівы род "ляндкнэхтаў", якія думалі, што маральна мусяць дапамагаць у барацьбе з бальшавізмам.

Аднаго вечару мы сядзелі й разважалі тэорыі й прынцыпы партызанскага змаганьня: эльбінгскі марак, зьнішчальнік якога недзе ў Балтыцкім моры наскочыў на міну, далей танкіст зь Сілезіі ну й я. Пачалося з таго, што я выказаў сумлевы ў посьпехі партызанскіх змаганьняў, а Сілезец запратэставаў. —Ты выходзіш з хвальшывае пазыцыі — казаў ён. — Мы дзейнічаем ня сілай, адно толькі фактам, што мы ёсьць. На нашым баку ініцыятыва, рухлівасьць і неспадзеўка. Гэта ўсё ад на залежыць. Кажнае разьвідленьне, кажны лясок, кажны роў, усё можна выкарыстаць на засадку. Шансы партызанскага змаганьня ляжаць не ў мілітарным а толькі ў маральным спосабе. Мы можам паўгоду сядзець ціха, але саветы мусяць быць заўсёды напагатове таму, што мы дзесьці пакажамся. Натуральна, у вадкрытым полі мы ня зможам абараніцца, але гэта мажлівасьць змушае саветы быць заўсёды напагатове. Яны думаюць, што калі ні сяньня дык заўтра мы зможам пайсьці на іх з гарматамі ці танкамі.

Ен загарачыўся ў сваіх высновах, кажучы: — Я маю сваю тэорыю, тэорыю трох: лясы, воды й пустыры. Гэта тры фактары, у якіх наша вайна мае надзею на перамогу. — Лясы й пустыры, з гэтым згаджаюся, — сказаў я, — але пры чым тут воды? Мне здаецца, што ты крыху задалёка заскочыў.

### Ад Арміна да Ляўрэнса.

Марак ківаў галавою, кажучы: — Гэта праўда, што падводная вайна розьніцца ад партызанскай. Яна змушае частку караблёў пад сільнай аховай рухацца групай, згодна з правіламі сыстэмы канвою, даглядаць тыя адзінкі, што ня маюць вялікае хуткасьці й прытарнавацца да агулу таму, што падводныя лодкі нападаюць тады, калі яны змогуць. Гэта малая вайна знаходзіцца ў межах магчымасьці. Ён закурыў. Тэорыя трох ня ёсьць узятай з паветра, а гэта клясычны прыклад, пустынная тактыка палкоўніка Ляўрэнса зь Першай сусьветнай вайны. Арганізаваўшы арабскае паўстаньне, ён тымсамым падрыхтаваў мадэрную партызанскую тактыку. Наапошку Армінус, гэрманскі князь, які разьбіў Варуса ў Тэўтабурскім Лесе, гэтак залажыў першыя паняцьці пра партызанскую вайну.

Я зірнуў на гадзіньнік, уключыў прыёмнік на адбор і чакаў. Празь некалькі хвілін потым заступкалі тры пары мужскіх ботаў па сьцежцы ў даліну. — Што такое? — спытаў Сілезец. — Пачакай, — адказаў я, — не заўсёды трэба быць цікавым.

Спаць ня было часу.

З прыцёмненымі ліхтарамі ківаўся ў цёмнай ночы грузавік. Восем "нялегальных" з суседніх калгасаў ускочылі да нас і разьмясьціліся на вузкіх лаўках. Відаць, паведамілі іх раней. Выглядала, што шофэр добра ведаў дарогу, бо ні разу не затрымаўся. Спыніліся на аднэй паляне. Чалавек зь

перавешаным на плячо аўтаматам адчыніў заднюю кляпу. – Хутчэй! – сказаў, – Шэф ужо чакае.

Жывёла з Мэкленбургу ў Крым.

Ён вёў нас вузкой лясной сьцежкай. Было так цёмна, што ледзь відаць быў чалавек, што йшоў перад табой. Лаючыся, за мной ішоў Сілезец. Яму галіна стукнула па твары. Пакрысе вочы прызвычаіліся да цемры. Вось на паляне стаяла група мужчын. Мы замальдаваліся камандзеру. Ён быў вельмі малады й думаю, што я яго колькі тыдняў назад бачыў як ад'ютанта Вітушкі.

– Слухайце, – сказаў ён, – частка з вас яшчэ ня ведае ў чым справа. У працягу ночы мы чакаем на савецкі транспарт, што мае дастравіць быдла з Мэкленбургу ў Крым. Ён ужо авізаваны яшчэ ўчора. Некалькі групаў ляжаць ужо напагатове пару дзён. Мы сьцягнулі падмацаваньне, каб якнайхутчэй справіцца з адвозам быдла. Цягнік мае быць тут за дзьве гадзіны. Груповыя пакажуць, што каму рабіць. Гэта было-б усё.

Людзі, не гаворачы ні слова, пачалі разыходзіцца. Мяне прыдзялілі да групы, што мела заданьне ахоўваць чыгунку. Мы мусілі прапусьціць цягнік, каб потым унемажлівіць савецкай ахове ўцёкі.

Вуха на рэйцы.

Мы заляглі на сваіх пазыцыях, калі вярнуўся да нас Сілезец, кажучы: – Я агледзіў месца падрыву, ну... калі гэта ні ўзьляціць!

Чакалі. Час ад часу пазіраў я на гадзіньнік і мінуты валакліся вельмі паволі. Пачало сьвітаць. Ужо можна было разгледзіць абапал чыгункі дрэвы. Я падняў каўнер плашча й падыйшоў да калеі, каб прылажыць вуха да рэйкі, але нічога ня было чуваць. Калі я вярнуўся, дык Сілезец запытаўся: – Нэрвуешся? Або, мусіць, раней зашмат раманаў Карла Мая чытаў?

Раптам пачулі мы голас: – Падрыхтавацца! Зірнуўшы ўздоўж шляху, пабачылі воддаль сьвятло, што пранізвала раньнюю імглу, пачулі грукат колаў, што мацнеў з кажнай хвілінай. Мы пападалі на сьцюдзёную й мокрую зямлю. Каб ня грукат колаў, можна было-б падумаць, што цягнік затрымаўся, гэтак паволі ён набліжаўся. Вось ужо добра відаць ягоныя ліхтары і ён прасоп каля нас. Раўнамерна стукалі па рэйках колы, мы яшчэ больш прыляглі да зямлі... але нічога ня было. Раптам грымнуў узрыў, крыкі і, як мне здалося, грукат кулямёту МТ 42. Тады мы ўскочылі й разлучыліся направа й налева ад шляху. Налева ад нас пачулі тры невялікія ўзрывы. Ручныя гранаты. Двух чалавек у савецкіх мундзірах беглі па шляху ў нашым кірунку. Калі нашы кулі засьвісталі ім ля вушэй, яны завярнулі й вялікімі крокамі падаліся да цягніка.

Перад намі яшчэ стралялі, але нашая група змоўкла й запанавала ціша, толькі перапалоханая жывёла раўла ў вагонах. Мы йшлі ўздоўж палатна, ахоўваючы абодва бакі. Нашая асьцярожнасьць была лішняй. Калі падыйшлі да цягніка, групы мужчын адчынялі вагоны й выладоўвалі жывёлу.




*Тэрыторыі нацыянальных антымаскоўскіх узброеных рухаў супраціву паводля аўтара.*

У палон не бяруць.

Маладая дзяўчына ў высокіх ботах, расшпіленым плашчы й цёмназялёнай спартовай кашулі перавязвала раненаму партызану руку. Тонкі касмыль валасоў упаў ей на твар і энэргічным кіўком галавы яна адкінула яго назад.

– Ці маеш ты перавязачную пачку? – спытала мяне.

Я даў ей, што патрабавала й бель бінта зазьзяла на пакрытай глінай цёмнай зелені мундзіру. Дзяўчына спрытна завязала пятлю. Калі ранены адыйшоў, папрасіла ў мяне сыгарэту.

– Ты ў нас новы? – спытала.

Я кіўнуў галавой у вадказ і зірнуў на забітых саветчыкаў, што ляжалі некалькі крокаў ад чыгункі.

– Чаму вы не бярэце палонных? – спытаў я.

Яна зьдзіўлена зірнула на мяне.

– Думаеш, што калі хто з нас пападзе ў іхныя рукі, дык яны нас пашкадуюць? Мы не даём спуску, але й ня просім яго. Я, праўда, хоць жанчына, але ўжо прывыкла да гэтага.

– Ты Немец? – спытала па хвіліне.

Я кіўнуў галавой. Кароткая ўсьмешка зразуменьня, быццам выбачаючыся за такое пытаньне, мільганула на яе твары. Пазьней я даведаўся, што гэта была Аляксандра. Яе бацьку саветы расстралялі як "трацкіста". Адна зь першых зьявілася яна ў рады антыбальшавікоў. Адзін Беларус, што запазнаў мяне зь яе лёсам, казаў, што яна вельмі адважная. Ён толькі раз бачыў яе сьлёзы, калі маладога студэнта злавілі пры раськіданьні афішак і пасьля ліквідавалі. Ён, пэўне, быў яе нарэчаным.

Мы робім цэлую работу.

Таму, што хапала мужчын для разладаваньня статку з вагонаў, нас выслалі некалькі кілямэтраў наперад, напэўна, каб забясьпечыць у працягу наступных гадзін далейшую працу. Можна было быць пэўным, што

ніякая небясьпека не пагражае. Навет, калі-б хто з праваднікоў цягніка ўратаваўся, дык трэба было найменш паўдня, каб да наступнага гарнізону дайсьці й трывогу падняць. Было ясна, што спосаб нападу быў добра прадуманы й выкананы.

Адклікалі нас яшчэ перад абедам. Партызаны зрабілі цэлую работу, заладавалі статак у раней нарыхтаваныя грузавікі. Гэта ўсё пайшло на папаўненьне запасаў у розных тайных лягерох. Пазьней я даведаўся, што ў гэтай акцыі брала ўдзел больш як дзьвесьце "нялегальных". Уся суправодная каманда загінула. З боку нападаючых было толькі некалькі параненых.

### Пра "Зялезнага Ваўка" й іншых.

Наступныя дні прынясьлі цэлую кучу цікавае працы. Камандаваньне "Чорнага Ката" было ўпэўненае, што пасьля нападу на цягнік нахлыне новая хваля перасьледаваньняў. Але не прадбачвалі адкрытае барацьбы із "істрабіцелямі". Гэта была спэцыяльная група, што займалася вынішчэньнем партызанаў ды масавымі арыштамі МВД. Было зразумела, што трэба было мецъ цясьнейшае супрацоўніцтва з іншымі партызанскімі групамі. Шматлікія кур'ерскія паездкі зьвялі мяне пры гэтым з балтыцкімі групамі, як "Зялезны Воўк", "Лясныя Браты", дзе я даведаўся аж да драбніцаў пра сілу й дзейнасьць гэтых групаў.

Лік "барацьбітоў" у балтыцкіх краінах, па асьцярожным падліку, даходзіў да 20 000. Па новых даведках, між іх было прыблізна 1 500 афіцэраў і жаўнераў былае нямецкае арміі. Гэтыя людзі паходзілі з Усходняе Прусіі й большая іх часьць зусім ня была ў савецкім палоне, а некаторыя зь лягероў паўцякалі.

*Заўвага: Аўтар гэтых успамінаў быў на службе "Чорнага Ката" чатыры месяцы, пасьля чаго служыў у балтыцкіх, украінскіх і польскіх рухах супраціву. Вартасьць ягоных далейшых успамінаў мае вялікую цану для нашых суседзяў, а меншую для нас. І таму гэтта канчаем друк успамінаў Гасмюлера тым месцам, у каторым ён гаворыць пра нашых:*

Вялікае прыкрыцьцё і падтрымку балтыцкім адзьдзелам давала арганізацыя "Чорнага Ката", да якой я тады належаў.

Гэта арганізацыя паўстала ў 1944 годзе й мае прыблізна да 50 000 сяброў. У гэны лік уключаны таксама сымпатыкі, г. зн. тыя, што падтрымоўваюць яе.

*Дзейнасьць беларускіх патрыётаў із зброяй у руках перашкаджала акупантам заганяць у Зах. Беларусі нашых сялян у чырвона-маскоўскі прыгон, г. зн. зьненавіджаныя калгасы. Сьветчаць пра гэта самыя народам праклятыя акупанты ў сваей "Гісторыі БССР", т.5, Менск 1975, бач. 77-78. Рэпрадукуем бязь зьмен.*

*Рэдакцыя*

Будаўніцтву новага жыцця на вёсцы перашкаджалі кулакі, банды, буржуазна-нацыяналістычныя элементы і варожа настроеная да Савецкай улады частка духавенства. Сваёй падрыўной дзейнасцю яны спрабавалі сарваць ажыццяўленне палітычных і сацыяльна-эканамічных мерапрыемстваў Савецкай улады. Адразу ж пасля выгнання нямецка-фашысцкіх акупантаў узброеныя банды ўчынялі зверскія расправы над партыйнымі, савецкімі і камсамольскімі работнікамі, актывістамі. У Браслаўскім раёне, напрыклад, яны зрабілі напад на Друю, Іказнь і іншыя населеныя пункты, забілі некалькі партыйных і савецкіх работнікаў. У Пастаўскім раёне бандыты тэрарызавалі насельніцтва, забіралі ў яго прадукты харчавання і маёмасць, забівалі калгасных актывістаў, палілі дамы і грамадскія пабудовы. У Шарашоўскім, Жабінкаўскім і іншых раёнах Брэсцкай вобласці было спалена звыш 20 калгасных пабудоў, вялікая колькасць свірнаў са збожжам і насеннем [178]. У калгасе «Чырвоная Марава» Шарашоўскага раёна бандыты знішчылі запасы кармоў. Ад іх рук загінулі настаўніца-камсамолка — арганізатар калгаса імя У. І. Леніна Маларыцкага, старшыня сельгасарцелі імя Ф. Э. Дзяржынскага Брэсцкага раёнаў і многія іншыя актывісты. У вёсцы Шаркоўшчына Дунілавіцкага раёна Маладзечанскай вобласці бандыты па-зверску расправіліся са старшынёй Старадарожскага сельсавета П. Сваівам і яго сям'ёй, а таксама з упаўнаважаным па збожжанарыхтоўках [179].

Пераход большасці аднаасобнікаў на калектыўны шлях вядзення гаспадаркі ўзмацніў класавую барацьбу ў заходнебеларускай вёсцы. Кулацтва адкрыта выступіла супраць калгасаў. У Кобрынскім раёне, напрыклад, на чацвёрты дзень пасля арганізацыі сельгасарцелі ў вёсцы Паляцічы бандыты зрабілі напад на кватэру старшыні Р. Глека і цяжка яго паранілі [180].

Пры актыўнай падтрымцы мясцовага насельніцтва адміністрацыйныя органы на працягу 1945—1947 гг. ліквідавалі на тэрыторыі заходніх абласцей 814 антысавецкіх груп і ўзброеных банд [181].

В. Сеньпкевіч

# З "МАЛОЙ ЗЯМЛІ" ВЯЛІКІ ШУМ

*"Да выхаду ў сьвет успамінаў Брэжнева "Малая Зямля")*

Успаміны Генэральнага Сакратара ЦК КПСС, Старшыні Прэзыдыюма Вярхоўнага Савету СССР Леаніда Брэжнева "Малая Зямля" былі надрукаваныя спачатку ў лютаўскім нумары часапісу "Новый Мир". Затым, і нібыта, на просьбу шматлікіх чытачоў (прынамся гэтак паведамляла Маскоўскае радыё), яны былі перадрукаваныя "Літаратурнай Газэтай", "Літаратурнай Расіяй" і іншымі газэтамі Савецкага Саюзу. Як выглядае, успаміны Брэжнева выйшлі ў сьвет з нагоды 35-х угодкаў высадкі дэсанту й пачатку бітвы на пляцдарме, што на поўдзень ад Новарасійску, званым пазьней "Малой Зямлёй".

Як і трэба было спадзявацца, успаміны Брэжнева "Малая Зямля" былі адразу перакладзеныя на іншыя мовы Савецкага Саюзу, у тым ліку й на мову беларускую. У Беларусі яны зьявіліся адначасна спачатку ў красавіковых нумарох часапісаў "Полымя" й "Маладосьць", а потым былі выдадзеныя асобнай кнігай выдавецтвам "Беларусь". Выданьне гэтае ілюстравана каляровымі й чорна-белымі фотаздымкамі. Яно надрукавана масавым тыражом.

З моманту зьяўленьня ўспамінаў Брэжнева "Малая Зямля", па ўсяму Савецкаму Саюзу пачалі праводзіцца чытальніцкія канфэрэнцыі, прысьвечаныя ідэйнай аснове й зьместу гэтых запісак былога начальніка палітадзьдзелу 18-й дэсантнай арміі. Кампанія гэтая не абыйшла, бязумоўна, і Беларускай ССР. У рэспубліканскай прэсе спасылаюцца на іх пры кажнай нагодзе, пры кажнай магчымасьці. Успаміны Брэжнева, як адзначае газэта "Літаратура і Мастацтва" з 2-га чэрвеня, выклікалі "вялікую душэўную ўзрушанасьць" і ў літаратараў нашай рэспублікі. "З глыбокай зацікаўленасьцю, – дадае "Лім", – ішла пра іх гаворка і на адкрытым партыйным сходзе, які праходзіў 29-га мая ў Доме Літаратара".

Успаміны Брэжнева "Малая Зямля" – твор мэмуарнага жанру літаратуры. Аднак беларускія літаратары разглядалі не літаратурны аспэкт успамінаў, а ідэялягічна-палітычны іх бок, пра шго й заявіў сакратар партыйнай арганізацыі Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі Кругавых, гаворачы, што "справа йдзе пра новыя задачы, якія паўстаюць перад пісьменьніцкай арганізацыяй у сьвятле палажэньняў гэтай кнігі", бо гэта партыйны твор "вышэйшай ступені". У сувязі з гэтым ці трэба тады дзівіцца, што сход "аднадушна" прыняў пастанову, у якой заклікаў пісьменьнікаў "глыбока вывучыць кнігі Брэжнева "Малая Зямля" й "Адраджэньне", каб кіравацца іх палажэньнямі ў штодзённай дзейнасьці". Інакш гаворачы, успаміны Брэжнева "Малая Зямля" – чарговы партыйны дакумэнт, што мае служыць як узор баявой партыйнай публіцыстыкі. У гэтым іх галоўная вартасьць.

У сувязі з шумiхай вакол успамінаў Брэжнева, варта разгледзіць гістарычны аспэкт "Малой зямлі", асабліва, што пры чытаньні дасьледваньняў гэтага пытаньня савецкіх гісторыкаў апошняга часу складаецца ўражаньне, што Сталінград, Ленінград і іншыя месцы бітваў, якія вырашалі лёс II-й Сусьветнай Вайны, у параўнаньні з "Малой Зямлёй" выглядаюць чымсьці другарадным. Дзеля гэтага зьвернемся спачатку да савецкіх даведнікаў такіх, як, напрыклад, энцыклапэдыі.

Гэтак, у 5-м томе "Малой Савецкай энцыкляпэдыі" трэцяга выданьня з 1959 году, у калёнцы 874, дзе трэба было-б спадзявацца знайсьці тэрмін "Малая зямля", ён як такі наагул там ня фігуруе. Тое самае і ў 6-м томе "Беларускай савецкай энцыкляпэдыі". У 7-ым жа томе "БелСЭ", на старонцы 524 там, дзе гаворыцца пра Новарасійск сказана толькі, што: "З 10.9.1942 да 16.9.1943 частка гораду захоплена нямецка-фашысцкімі войскамі. Адваяваны пляцдарм савецкія дэсантнікі ўтрымлівалі 225 дзён (з 4.2. 1943). Як бачым, пра "Малую зямлю", як такую, таксама няма ніякага ўспаміну. У чым-жа тады справа?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, зьвернемся зноў да савецкіх крыніцаў. У і2-м нумары "Военно-исторический журнал" за 1976 год, у сувязі з 70-годзьдзем Брэжнева, быў зьмешчаны рэдакцыйны артыкул пад загалоўкам "Выдатны палітычны, дзяржаўны й ваенны дзеяч сучаснай эпохі". Артыкул гэны лепш трэба было-б назваць новым варыянтам біяграфіі Брэжнева.

Вось-жа ў гэтым новым варыянце шмат месца ўдзяляецца й "Малой зямлі". Цікава аднак тое, што тут ні слова ня сказана пра стратэгічную або навет апэратыўную вартасьць новарасійскага пляцдарму. (Пры нагодзе адзначым, што ў 12-м нумары часапісу "Военный Вестник", часапісу прафэсыйнага профілю, пра дзейнасьць Брэжнева на "Малой зямлі" ня знойдзем ні аднаго радка). Дый вартасьць гэтая аказалася запраўды малазначнай і ў канчатковым вызваленьні Новарасійску "Малая зямля" не адыйграла ніякай важнейшай ролі. Адначасна, утрымоўваньне яе на працягу сямі месяцаўператварыла "Малую зямлю" ў свайго роду "мясарубку" найбольш адборных войскаў 18-й арміі, у якой, б я з сумлеву, было й шмат Беларусаў.

З кнігі савецкага аўтара Георгія Сакалова "Малая зямля", выдадзенай у Маскве ў 1971 годзе даведваемся, што ў час абароны "Малой зямлі" на ёй было высаджана больш чым 60 000 дэсантнікаў. Вывезена зь яе было каля 25 000 раненых. А калі ў верасьні 1943 году "Малая зямля" аб'ядналася зь "Вялікай", у яе войсках налічвалася крыху больш чым шэсьць тысячаў. Інакш кажучы – 29 000 забітых і 25 000 раненых. Гэта – фактычная цана гэтага шматка зямлі. Адказнасьць за гэтыя вялікія страты ляжыць, перадусім, на камандаваньні Паўночна-Каўказкага фронту, якое не адважылася было далажыць Стаўцы аб бескарыснасьці утрымліваць "Малую зямлю".

Савецкія газэты "Красная Звезда" з 16-га кастрычніка 1971 г., "Комсомолец" з 15-га травеня 1975 г. і згаданы раней часапіс "Военно–исторический журнал" ізь сьнежня 1976 году, пішачы пра генэральнага сакратара, паказваюць Брэжнева ваенных гадоў чалавекам шырокага апэратыўнага мысьленьня, які часамі падказваў галоўнакамандуючаму 18-й арміі патрэбныя пастановы. А ці паведамляў Брэжнеў у Маскву пра тое, што "Малая зямля" ня была варта тае крыві, якую яна вымагала кажны дзень? На гэтае пытаньне, на жаль, ва ўспамінах Брэжнева адказу не знаходзім.

# ГАРАВАТКА

## *Кніга 3-я*

## *ВАС ЧАКАЕ ЗЯМЛЯ*

*Наш пісьменьнік К. Акула працуе над трэцяй і апошняй кнігай "Гараваткі" п.заг. "Вас чакае зямля". Зьмяшчаем часьць разьдзелу кнігі.*

*Рэдакцыя*

Некалі на Ўладзімера Пягуха клеці гаспадарылі афішы з напісамі "да здравствует!" Падчас перадвыбарнае барабаншчыны зьяўляўся гэтта ледзянавокі васпаваты Грузін. А іншымі разамі на зьмену сьпяшылі розныя "на вахце сустрэнем і перавыканаем"...

У гэны ліпеньскі дзень красаваліся тут дзьве вялізныя афішы. На аднэй зь іх высілася аграмадная фігура нямецкага жаўнера з аўтаматам у руцэ, вялікі бот із здаравеннымі шыпамі ў падэшве. І з-пад таго боту, – жах у вачох па яблыку вялічынёю, – быццам пацукі, уцякаюць на ўсе бакі жыдкі ў форме НКВД. А зьверху вялікі напіс: "Панеслася жыда-бальшавіцкая хэўра й больш ня вернецца".

Хто выдумляў тыя афішы, выдатна спалучыў два элемэнты: быццам магутную й непераможную сілу нямецкае арміі ды нікчэмнасьць бальшавіцкае ўлады й зьдзеклівых пацукоў з НКВД. А самае галоўнае, проста й ясна ўсё гэта "панеслася й ня вернецца!" Цешцеся, значыцца, яшчэ раз вызваленыя, глядзіце ў сьветлую будучыню. Запомніце, што ворагамі вашымі былі жыдкі ў хворме НКВД. Але яно "панеслася і ня вернецца!" Спалучэньне жыдкоў-пацукоў зь ненавісным рэжымам мела ці не найбольшую вагу.

Вось ён, новы валадарны апякун, аўтамат у руцэ, грозныя, помсты прагныя вочы пад нізкім казырком шлёму, сьцятыя вусны. Вялізны бот топча пацукоў "жыда-бальшавіцкае хэўры". Гэта ён – няпераможны ваяка "Новай Эўропы", каваль і гаспадар "новага парадку".

Другая афіша, з малюнкам сакавіта ўраджайнага поля, гарэзьлівым вільчыкам страхі гумна й прывабнай хатай побач – ідылія-мара кажнага селяніна. І над гэтым: "Беларусы, вас чакае зямля!" Скупыя напісы й вялікі зьмест: "магутны, шляхотны вызвольнік", "жыда-бальшавіцкая хэўра", што ўжо, пэўне-ж, ніколі ня вернецца, ды, – самае галоўнае, – руплівага вольнага гаспадара чакае "зямля абяцаная". Што больш магло прыяць людзям, якія ў роспачы, з горычай выклікалі: "ніхай лепі чорт прыйдзіць , абы ня гэта брыда"?

Унізе, пад тымі афішамі, вісела трэцяя, меншая паперка, задрукаваная выразнымі літарамі. Пасярод уверсе, шырака растапырыўшы выстылізаваныя крыльлі, арол трымаў у кіпцюрах свастыку. І загаловак: "Паведамленьні Галоўнае Каманды Нямецкіх Збройных Сілаў". Гэтта даволі шырака й зьвязла расьпісвалася, дзе й што зрабілі Гітлеравы бамбавозы, ганчакі й зьнішчальнікі, якія гарады й землі заняла армія. Паведамленьні прыцягнулі найбольш увагі. Посьпехі, відаць, былі вялізарныя. Надзівіцца не маглі літоўскія сяляне. Нейкая ўслужлівая рука, на падмацаваньне паведамленьняў, роўнымі лацінскімі літарамі "Маскаў капут" напісала.

Гэна першае абліччa "новага парадку", што аздабляла цяпер Пятухову клець, прывёз учора з Глыбокага заўсёды да ўсяго дападлівы із сваім гнядым конікам рыжавусы Захарук.

– Але-ж і добра тут Неміц гэтых бальшавікоў адчыканіў. Га-га-га! – рагатаў Пятух Уладзімер.

– Ты глянь, якія пірапуджаныя морды! От і драла даюць!

– І пабіларуску во ўсё. Знаіць, каб яго халера!

– Ну як-жа яму ні знаць. Кажуць-жа, што Біларусам цяперака нейкую ўладу дадуць.

– Ого?

– Дадуць, як гэныя далі. Толька рот разяўляй!

– Ну а паглядзі, што тутака напісалі: "Беларусы, вас чакае зямля".

– Ага, чакаіць, тры мэтры на паўтара.

– Эх, ты разумнік гэдакі!

Асноўная ўвага на рыжавусым Захаруку трымалася. Сядзеў ён на лаве, пугаўём пясок між каравых ног тачыў і гаварыў павольным дрыжачым голасам:

– У цюрме ў Бярэзьвечах надта-ж многа нашага народу, яны, нячысьцікі, закатавалі. Неміц кажыць, што гэта Жыды з НКВД так мардавалі, пірад тым, значыцца, як уцікаць мелі... А гэта яны ў быўшым манастыры наш народ дзіржалі. От гэта я на свае вочы відзіў, што многа закатаваных ляжыць. А расказваюць, што надта-ж зьдзекваліся над людцамі беднымі: вешалі, насы абразалі, вочы выкалвалі, бабам грудзі выразалі, жываты паролі, каб ім на тым сьвеце, бандзюгам, так давялося!

– А Матка Боская! Людцы бедныя!

– Яны, сукіны сыны, нікаторых так зьнявечылі, што родныя свае ні пазнаюць. Божа мой, як паглядзеў я! Нашто ўжо жывот у мяне крэпкі, а чаго кішкі ня вывернула. А людзей, людзей, усе сваіх шукаюць.

– Ты, дзядзька, кажаш, што гэта нашы людзі. А хто яны?

Звычайна вясёлы й жартаўлівы Захарук цяпер абмінаў сканцэнтраваны на ім зрок сабраных, быццам сам віноўнікам тых злачынстваў быў. На чэрствым сялянскім твары цень жаху гаспадарыў. Дрыжэлі вусны. Забыўся, што даўно пагасла ў закопчаных пальцах самакрутка.

---

## З "МАЛОЙ ЗЯМЛІ"...

### *(Заканчэньне)*

А шкада! Бо заміж гістарычнай крыніцай, успаміны "Малая зямля" так і застануцца чарговым выданьнем якое будзе служыць партыі "для далейшага згуртаваньня калектыву, для наладжваньня творчага спаборніцтва й актывізацыі дзейнасьці, умацаваньня партыйнай дысцыпліны", словам для ідэйна-выхаваўчай работы.

— Дык людзі многа каго па паперках пазналі. Отжа на двары многа сьледчых дакумантаў валяецца параськіваных. Гэта-ж, мусіць, нячыстая сіла, зьбіралі ў кучу, каб спаліць, ды ня ўсьпелі. А вецер параськідаў. Значыцца там сьледчыя й судовыя паперы, ізь зьнімкамі й прозьвішчамі. Найболі нашых Біларусаў, але ёсьць Палякі й Жыды таксама.

— І Жыды забітыя!

— А як-жа. А з нашых, кажуць, дык многа папалося гэта каторых нахапалі астатнім часам пірад прыходам Немца. Глыбокае, кажуць, Немцы разбамбілі дык энкавудэ і ўся бальшавіцкая ўлада, у штаны напусьціўшы, драла дала. Некалькі дней нікога ня было й людзі пападчышчалі крамы, як і гэтта ў нас у Гацях. Але тады гэтыя, нячыстая сіла, вярнуліся яшчо назад і давай, хто папаўся пад руку, проста стралялі, або ў Бярэзьвечы... Дык от так масу народу на той сьвет зьвялі... Ну і, кажуць, пасьледнім часам пахапалі многа нашых грамадаўцаў...

Ледзь варушыў лісьцем лагодны ліпеньскі вецер. Нярухома побач стаяла гойдаўка. Дзесьці ля Бураковых прысадаў з жалем выў адзінотны Ромак.

— Каб яго халера, сабаку гэтага! — злаваў Уладзімер Пятух. — Нікому не даецца, ніяк во ня прынадзіш. Саўсім зьдзічэіць.

Сонца за поўдзень хілілася. Позна ўчора Захарук з гораду вярнуўся. Сяньня раніцай прынёс Пятуху Уладзімеру афішкі й папрасіў, каб на клеці папанаклейваў. Ашныраўшы новае, Піліпаў Арсень, а там ужо і Аўдоля ягодка па вёсцы разьнесьлі. Неўзабаве пачалі зьбірацца людзі. Прыбывалі й цяпер.

— З гэтага боку, воддаль ад манастыра, — прадаўжаў Захарук, — выкапалі яму вялізную і туды во закатаваных ськівалі. Я праціснуўся перазь сьцяну народу й прыглядзіўся: Божа мой, аж нос зарываіць! А тамака абы як, адзін на другім. Я пробаваў лічыць, але скора зьбіўся. У некаторых пазнаць былі дзіркі ў патыліцах. Гэта-ж так, нячыстая сіла, стралялі. У другіх петлі на шыях, а твары так зьнявечаныя, што ні пазнаеш. Бабы галосяць навокал, Божа мой! І ўжо надта-ж злы народ, праклёны толька з вуснаў чуваць. От каб яму тыя каты-бальшавікі ў рукі папаліся, дык мусіць на кускі парвалі-бы, скуру пасмамі дзерлі-бы. Гэта-ж ні жарцікі табе! Падумаць, падумаць!

Захарук закрыў твар рукамі, дрыжэў. У вачох сьвежай стаяла брацкая магіла нявінных суродзічаў.

— А ягодка-ж мая міленькая, а Госпадзі мой! — войкнула Кмітава Аўдоля. — Азьвярэлі саўсім людзі. А што-ж гэта будзіць?

— Дык Неміц пушчаіць туды ўсіх, каторыя глядзець хочуць?

— Во... а чаму-ж не... Ён падахвочваіць яшчо, каб відзілі людзі якія людаеды гэтыя бальшавікі. Неміц усю віну за гэта на Жыдоў валіць.

— Але-ж ты кажаш, што й Жыды пабітыя ёсьціка.

— Ага, ёсьціка. Сам відзіў. Мужчыны во паказвалі, каторыя пазналі іх. Дык гэта самае, тамака Немцы ваенныя для парадку стаяць, а народ усё чаргой туды ідзець глядзець. Адзін салдат празь нейкую конаўку, каб усе чулі, так панашаму паясьняіць усё. Кажа хто гэта зрабіў, знацца нашых людзей катаваў і забіваў...

"Дзіравы шляхціц" Паўлоўскі ніякавата азіраўся па бакох, мяркуючы дзе й як, якое слова ўкінуць. Пашанцавала яму. Ці прыйшло яму калі ў галаву, што мусіўбы людзям за дабрату й стрыманасьць падзякаваць? А з другога боку загадка: чаму Косьцік Сабакевіч і Лявон Шпунт яго ня выдалі? А мо выратавала тое, што адным зь першых у калгас запісаўся?

Цяпер бянтэжыў яго новы парадак. Што ён прынясе? Каму за ўладу ў вёсцы брацца? І ці ня прыдасца зноў той начальніцкі капялюш і абшмуляная тэчка?

— Ну а пра Бурака з бабай ня чуў? — пытаўся Захарука Уладзімер Пятух.

— А дзе падзеўся Антось Дзяркач?

— Яно-ж пра іх самых ня чуў, але слухі ходзяць, што нікаторых зь цюрмы бралі ды ў Расею гналі. Дык от можа й яны туды папалі. Гэта значыцца, калі яны ў Бярэзьвечах былі.

— А ягодка-ж мая, гэта-ж ні дай ты Божа, каб і іх пабілі. Як-жа гэта так можна над людцамі зьдзекавацца?

— Ну й што будуць з тымі забітым рабіць?

— Цяперака там Неміц ужо зганяіць людзей. Вывозяць некуда.

— Ну а як хто свайго знайдзіць?

— Трупоў радні аддаюць.

Дзед Якуб маўкліва сядзеў на лаве побач Захарука, ссаў сваю неразлучную люльку. Цяпер загаварыў:

— Дык кажаш многа там яго, каб яго макарэц, гэтага Немца? А хто табе во гэтыя паперкі на сьцяну даў?

— Дык, гэта-ж самае, казалі на рынку людзі, што Неміц раздаваў. Але мяне там тады ня было, ня відзіў што за Неміц. От я задзержыўся на рынку, гляджу — куча людзей, нешта чытаюць і гаворуць, дык і я туды. Нейкі дзядзька й мне іх у руку тыцнуў. Вязі — кажыць, — у сваё сяло, ніхай людзі чытаюць. Дык я й прывёз. Але мне здаецца, што я яшчо адну ці болі іх меў, ды дзе гэта я іх запхнуў...

Кінуўшы даўно патухлы недакурак, Захарук пачаў шарыць па кішэнях.

— А ці многа там таго Немца, каб яго макарэц спапяліў? — пытаўся дзед Якуб.

— Ды ёсьціка. Вунь і на станцыі, і гімназію занялі. Усюды іх. Але гэта, кажуць, праездам.. Ага, во яна, гэна самая паперына.

Ён выняў зь кішэні й разгарнуў невялікі, як на дзьве бачыны сшытка шэры ліст друку.

— Хто тут найлепі прачытаіць? — зірнуў навокал дзядзька. — От ты, Янук, чытай, ніхай усе слухаюць.

Янук падыйшоў да Захарука, узяў даволі пакамечаную паперку, прыглядаўся ёй.

— Да жыхароў вызваленых тэрыторыяў, — пачаў юнак. — Вялікая й няпераможная Нямецкая Армія вызваліла вас ад жыда-бальшавіцкае няволі. Дзякуйце за гэта Вялікаму Праваднру Нямецкага Народу Адольфу Гітлеру...

— Крапчэй ты, ядрыт тваю палку, бо ні чуваць!

— Ну добра, добра, чытаю-ж...

...для канчальнай перамогі над бальшавізмам вы мусіце падпарадкоўвацца й памагаць Нямецкай Арміі. Для ўстанаўленьня парадку й грамадзкага ладу на вызваленых тэрыторыях, загадваецца наступнае:

Здаваць нямецкім уладам усю зброю. За ўкрываньне зброі — сьмерць.

За супрацію нямецкім уладам — сьмерць.

Выдаваць нямецкім уладам палонных і дэзэртыраў з Чырвонай Арміі. За перахоўваньне іх — сьмерць.

Па захадзе сонца, ад гадзіны восьмай у гарадох і мястэчках, забараняецца выходзіць на вуліцы бяз

спэцыяльных пропускаў.

Жыды ня маюць ніякіх правоў. Адносна іх будуць выданыя спэцыяльныя загады. За перахоўваньне і ўкрываньне Жыдоў – сьмерць.

У справе пытаньняў гаспадарчага й грамадзкага парадку, да часу ўстанаўленьня цывільнае ўлады, зьвяртацца да мясцовае нямецкае камандантуры.

Янук скончыў чытаць, прыглядаўся яшчэ на вялікі й прыгожы шрыфт, ды аддаваў паперку Захаруку.

– Ды навошта ты яе мне? Павесь во на сьцяну.

– Сьмерць, сьмерць, ды сьмерць! Здорава! – сказаў Тодар Кміт.

– Ну а што ты думаў, Неміц будзіць з табой цацкацца, калі не паслухаеш? – сказаў Пятух Уладзімер.

– Парадак трэба–ж...

– Ну, ага, парадак трэба. Дый глядзі, многа камуністаў пахавалася.

– Ну а пра Жыдоў ня чуў болі? – пытаў Захарука дзед Якуб. – Што зь імі? Чаму ім права ніякага?

– Людзі кажуць, што Неміц із здорава прыцісьніць. Нібыта ў Польшчы пазганяў іх і дзержыць асобна дый на працу пад канвоем ганяіць. А так яны ніякіх правоў ні маюць. Хто-ж яго ведаіць, што ён тутака зь імі будзіць рабіць. Але-ж нешта надта Неміц на Жыдоў злосны. Ужо каму як каму, а ім, відаць, пападзецца...

Гутарка расплылася. Кажнаму рупіла свае думкі пра пачутае выказаць. Да гурту ля Уладзімеравай клеці прывалюхаў Сымон Пятух. Аброслы твар, з роту тарчэла смуродгая казіная ножка. Зашмуляная сьвітка, неадлучная аладка-кепка на галаве. Згорблены, ён быццам напалоханы заяц, асьцярожна цікаваў на бакі, як-бы баяўся, каб хто на яго сабаку ня спусьціў.

– Эй, Сымон, як тамака твой каўхоз? – жартаўліва гукнуў Алесь.

Літоўскі гультай не паздароўкаўся зь людзьмі, дый не хацеў, відаць, усім на воку быць. Калішняя пэўнасьць і нахабнасьць зьнікла із зношанага твару. Заклапочаны, ён ня мог людзям проста ў вочы глядзець.

– Дык-жа... Яно-ж, гэтага... – пачаў нязьвязна, зіркаючы на кплівыя твары. – Ты-ж, Алесь, знаіш, што людзі ўжо свой статак і ўсё другое разабралі й таго каўхозу як і ня было... Ды, значыцца чорт знаіць што Неміц зробіць...

– Які-ж зь цябе такі гаспадар, калі ўся твая гаспадарка распаўзлася?

– Ат, кінь Алесь кепікі строіць.

– А дзе-ж Шпунт? – спытаў Тодар Кміт.

– Ды нешта ня відаць, – адказаў Уладзімер Пятух. – Ня чуў, Сымон?

– Ня чуў. Можа дзе каля дому хаваецца.

Калгас разьвязаўся бязь ніякіх "таржэсьцьвенных міцінгаў" і спануканьняў, як толькі людзі пранюхалі што прыгонная ўлада галаву скруціла. А тыя першыя нефартунныя перадавікі кажны сваё, быццам згаварыўшыся, дамоў пацягнулі. Сявенькавы-ж хлявы, дзе стаяла абагуленае ядро, сьвяцілі цяпер пусткай.

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

*Ад 25 чэрвеня да 15-га жнівеня сёлета атрымана на "Зважай" з падпіскі, ахвяраў і продажы:*

В.Сянькевіч – 13.50 дал., Бібліятэка Нью Ерку – 5.00, Я.Каваленка (продаж) – 17.30, а.М.Страпко – 5.50, С.Гутырчык (з продажы) – 54.72, З.Дзядовіч – 5.70, А. Кайка – 5.70, К.Калоша – 11.40, М.Махнач – 11.40, П. Бартуль – 11.40, М.Пракопчык – 5.00

*Разам – 146.62 кан. дал. Усім, што памаглі, дзякуем!*




*ПАДРЫХТОЎКІ ДА АЛІМПІЯДЫ Ў МАСКВЕ ПАВОДЛЯ "НАШНАЛ РЭВЮ"*

1140 National Review